№ 102 (4047)

29 снежня 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Наступны нумар «Народнай Волі» выйдзе 5 студзеня 2016 года.*

## Новы год з марозам і снегам

Ужо сёння ноччу да -3...-9°С. У **сераду** без істотных ападкаў. На асобных участках дарог галалёдзіца. Тэмпература паветра мінімальная ноччу -7...-14°С, месцамі -15...-17°С; максімальная днём -2...-8°С.

У **чацвер 31 снежня** без істотных ападкаў. На дарогах месцамі галалёдзіца. Тэмпература паветра мінімальная ноччу -9...-15°С, месцамі -16...-18°С; максімальная днём -4...-10°С.

Новы год сустрэнем з марозам і невялікім снегам, на дарогах месцамі галалёдзіца. Тэмпература паветра мінімальная ноччу -9...-15°С, месцамі -16...-18°С; максімальная днём -5...-10°С, у асобных раёнах да -12°С.

Да канца тыдня чакаецца далейшае ўзмацненне маразоў.

# З надыходзячым 2016 годам!

## Цяпла і спакою вашаму дому –
## Жыццё не ўдасца спыніць нікому.

ЭКСПЕРТИЗА



Владимир ТАРАСОВ,
финансовый аналитик
портала «Белрынок».

## Пирамида

Каждый человек, который брал кредит в банке, знает, что деньги достаются ему не бесплатно и по кредиту придется уплачивать процент. Точно так же обстоят дела и в масштабах государства.

Беларусь платит проценты по своим внешним долгам, которые с каждым годом становятся все значительнее. То есть можно сказать, что все жители Беларуси являются должниками, хотят они того или не хотят, и уплачивают проценты по своему долгу. Оценить тяжесть этого бремени в целом по стране сложно, поэтому для наглядности стоит пересчитать этот долг на каждого работающего жителя Беларуси.

По данным платежного баланса Беларуси за три квартала 2015 года, подготовленного Национальным банком РБ, на обслуживание валового внешнего долга (без учета погашения торговых кредитов и краткосрочных обязательств банков) было направлено в январе–сентябре 6,7 миллиарда долларов. Из них на погашение основного долга за рассматриваемый период ушло 5,5 миллиарда, а на платежи по процентам и другим выплатам – 1,2 миллиарда.

С каждым годом платежи по процентам растут. Если в 2005 году они составляли всего 110,8 миллиона долларов, то в 2010 году – уже 629 миллионов, а в 2014 году – 1,42 миллиарда. Судя по предварительным данным, за весь 2015 год проценты достигнут 1,6 миллиарда долларов.

Однако надо иметь в виду, что это еще не все платежи по процентам, ведь Нацбанком не были учтены краткосрочные обязательства банков и торговые кредиты. Указанные обязательства на 1 октября 2015 года составили 1,9 миллиарда долларов. Если предположить, что эти заимствования обходились стране в 6% годовых, то это будет соответствовать выплате за год примерно 100 миллионов. Что касается торговых кредитов, то вместе с авансами их сумма составляла на 1 октября 8,1 миллиарда долларов. Если при оценке платежей по ним исходить из тех же 6%, то получится около 500 миллионов долларов в год только на проценты.

Таким образом, суммарные выплаты в 2015 году по процентам по внешнему долгу Беларуси можно примерно оценить в 2,2 миллиарда долларов. Но это примерная оценка, поэтому будем считать, что величина процентов находится где-то в интервале 1,5–2,2 миллиарда. Много это или мало?

В расчете на одного жителя страны это примерно всего около 160–230 долларов. Не так уж и много, особенно если учесть, что валовой внешний долг в расчете на душу населения в Беларуси на 1 октября 2015 года составил 4025,4 доллара. Но в расчете на каждого работающего жителя страны получится примерно 8 тысяч долларов валового долга и 320–460 долларов в виде процентов.

Таким образом, можно считать, **что каждый работник Беларуси как бы одолжил за рубежом 8 тысяч и уплачивает за это 320–460 долларов в год.** Это немало. Получается, что **около месяца в году каждый работник работает только для того, чтобы выплатить проценты**. К тому же проблема в том, что и такие деньги надо заработать, а если посмотреть на результаты внешней торговли Беларуси, то легко обнаружить, что с этим дела обстоят неважно.

Чтобы только оплачивать проценты по взятым ранее кредитам, Беларуси надо иметь положительное сальдо внешней торговли в объеме 1,5–2,2 миллиарда долларов. То есть такое сальдо является минимальным условием, наличие которого позволяет говорить, что страна живет по собственным средствам, не залезая в новые долги, расплачиваясь по старым, не проедая резервы.

Однако, по данным Национального банка, сальдо внешней торговли Беларуси товарами и услугами за январь–октябрь текущего года составило 1,055 миллиарда долларов, причем в сентябре и октябре это сальдо было отрицательным (минус 10,7 миллиона и минус 99,6 миллиона долларов соответственно). Таким образом, за счет внешней торговли Беларусь в текущем году не заработает средств даже на уплату процентов по внешним кредитам.

А это значит, что для этих целей стране придется одалживать деньги или же продавать резервы.

С золотовалютными резервами дело обстоит тоже не очень хорошо. По данным на 1 декабря 2015 года, международные резервные активы Беларуси составили всего 4,58 миллиарда долларов, из которых золотой запас тянул на 1,42 миллиарда. К тому же тратить резервы президент Беларуси запретил. Наоборот, согласно утвержденным прогнозам, в 2016 году они должны сохраниться в нынешнем объеме или даже вырасти на 0,3 миллиарда, то есть на уплату процентов не пойдут.

Но, как бы ни обстояли дела с резервами, положения это не меняет: проценты по внешним долгам у Беларуси, может, сравнительно и невелики, но средства на их уплату страна не зарабатывает. А это значит, что даже если Беларуси удастся рефинансировать весь текущий внешний долг, ей придется делать новые заимствования, для того чтобы заплатить проценты по старым долгам. Пирамида получается… И для того, чтобы страна перестала строить пирамиду внешнего долга, необходимо обеспечить положительное сальдо внешней торговли не на уровне нуля, а в размере около 2 миллиардов в год.

ЧУЛІ?

## Заводы адправілі на канікулы

Амаль два тыдні не будзе працаваць Мінскі аўтамабільны завод. З 25 снежня большасць рабочых адправілі ў адпачынак, які не будзе аплачаны. Праўда, далі ім па 500 тысяч рублёў за эканомію рэсурсаў. У той жа час на МАЗе паведамілі, што службы маркетынгу, рэкламы і падраздзяленні, звязаныя з продажам прадукцыі, будуць працаваць без навагодніх канікул, па ўстаноўленым у Беларусі працоўным графіку.

На канікулы адправіліся таксама і прадпрыемствы, якія ўваходзяць у холдынг "БЕЛАЎТАМАЗ". Баранавіцкі аўтаагрэгатны завод не будзе працаваць, як і МАЗ, а Асіповіцкі завод аўтамабільных агрэгатаў пойдзе на канікулы з 30 снежня па 11 студзеня.

Такая ж сітуацыя і на Мінскім трактарным заводзе. Але там канікулы будуць крыху карацейшыя за мазаўскія – з 1 па 10 студзеня.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ЧУЛІ?

## Склікаецца V Усебеларускі сход інтэлігенцыі

Такое рашэнне прынята на пасяджэнні грамадзянскай ініцыятывы "Рада беларускай інтэлігенцыі". Як адзначыў старшыня рады – вядомы беларускі кінарэжысёр і педагог **Уладзімір КОЛАС,** за перыяд з апошняга IV Усебеларускага сходу інтэлігенцыі, які быў праведзены ўвесну 2007 года, адбылося шмат падзей, значна змянілася ўнутраная і міжнародная сітуацыя.

*"На вялікі жаль, у іншы свет адышло шмат шаноўных сябраў Рады беларускай інтэлігенцыі, добра вядомых у Беларусі і па-за яе межамі. Паколькі праблема маральных аўтарытэтаў нацыі не здымаецца, а толькі абвастраецца, паўстае пытанне абнаўлення складу рады і ягонага кіраўніцтва тымі аўтарытэтнымі людзьмі са свежымі ідэямі, якія маюць актыўную грамадзянскую пазіцыю і мужнасць яе адстойваць"*, – сказаў спадар Уладзімір.

Паводле ягоных слоў, на сходзе, які намечаны на май 2016 года, плануецца абмеркаваць найбольш актуальныя пытанні жыцця краіны і ролі беларускай інтэлігенцыі, у тым ліку яе маральнага выбару, праблемы наспяваючага эканамічнага крызісу і крызісу беларускай дзяржаўнасці. Неабходна даць належную ацэнку сітуацыі з пабудовай АЭС і магчымасці размяшчэння расійскай вайсковай авіябазы, а таксама абмеркаваць стан беларускай мовы, адукацыі і культуры.

Так, сход выкажа свае адносіны да пытання ўвекавечвання памяці выбітных беларускіх дзеячаў на прыкладзе праекта помніка народнаму пісьменніку Беларусі Васілю Быкаву ў Мінску, а таксама да праблемы актывізацыі прарасійскіх структур у Беларусі, у тым ліку шматлікіх мілітарызаваных дзіцячых і юнацкіх так званых ваенна-патрыятычных фарміраванняў, што апякаюцца Рускай праваслаўнай царквой.

Апроч таго, сход абмяркуе сітуацыю ў дэмакратычнай супольнасці краіны, бо яе хваробы не вылечаны і той раздрай, што меў месца раней, набірае новыя абароты сёння, падкрэсліў Уладзімір Колас.

ПАМЯЦЬ

## Рыгор Барадулін:
## «Калі я адыду, пастаўце мне сівы валун і крыж на валуне»

*У мінулую суботу на Бутаўскіх могілках ва Ушачах адкрылі і асвяцілі помнік народнаму паэту Беларусі.*




Паэта пахавалі побач з маці Акулінай Андрэеўнай, а на магіле ўсталявалі звычайны валун з высечаным на ім крыжам. Такой была воля паэта: «*Калі я адыду, пастаўце мне сівы валун і крыж на валуне*».

Суботнім днём архімандрыт **Сяргей Гаек**, святар грэка-каталіцкай царквы **Аляксандр Шаўцоў** з Полацка і ксёндз **Аляксей Асон** з Ушачаў асвяцілі помнік беларускаму паэту. Святары таксама адслужылі малебен і разам з прысутнымі праспявалі «Магутны Божа».

Людзей на адкрыцці помніка сабралося няшмат – каля 20 чалавек. Інфармацыі аб імпрэзе не было нават у мясцовай газеце. Ва Ушачы прыехала ўдава Рыгора Барадуліна **Валянціна Міхайлаўна,** паэт **Уладзімір Някляеў**, журналіст **Глеб Лабадзенка**, аўтар помніка **Ігар Засімовіч**, **сястра Васіля Быкава Валянціна Уладзіміраўна**, а таксама нешматлікія мясцовыя жыхары.

– *Атрымаўся выдатны помнік,* – адзначыла ўдава Рыгора Барадуліна Валянціна Міхайлаўна. – *Скажу шчыра, спачатку ён мне не спадабаўся, але зараз гляджу, што ўсё добра зроблена. Апошняя воля Рыгора выканана, ён хацеў быць пахаваны на сваёй зямлі і пад сваім небам. Пасля пахавання прайшоў час, але я ўсё роўна прачынаюся і думаю, што на снядана для Рыгора рабіць. Адной зараз шмат не трэба.*

Валун для помніка прывезлі з вёскі Кублічы, куды хадзіў у школу сябар Рыгора Барадуліна Васіль Быкаў. Шукаць валун у гэтым месцы параіла сястра пісьменніка Валянціна Уладзіміраўна, якая была добра знаёма з Рыгорам Барадуліным.

– *Пошукі валуна пачаліся летам,* – распавёў «Народнай Волі» скульптар Ігар Засімовіч аб рабоце над помнікам. – *Шукалі менавіта той колер, аб якім казаў Рыгор Барадулін. Выкарыстоўвалі шмат цэменту, каб зрабіць моцны падмурак, бо вага валуна 2,5 тоны.*

На магілу вялікі камень транспартавалі на верталёце, які выдзеліла для гэтага Міністэрства па надзвычайных сітуацыях. У падножжа ўкладзены жорнавыя камяні, прывезеныя з усіх абласцей Беларусі.

– *Думаю, што Рыгор задаволены,* – уздыхнула Валянціна Быкава.

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**

НЕ ПРАПУСЦІЦЕ!




## Пажаданні Алексіевіч і шоу ад «Белсата»

*Перамогай года, як і падзеяй года, стала для Беларусі ў 2015 годзе ўганараванне Святланы Алексіевіч Нобелеўскай прэміяй па літаратуры. Падчас снежаньскіх урачыстасцяў у Стакгольме яна дала эксклюзіўнае інтэрв'ю тэлеканалу "Белсат" (belsat.eu). У ім прагучалі ў тым ліку пажаданні беларусам напярэдадні зімовых святаў і наогул на будучыню.*

Вось зварот Святланы Алексіевіч да нас з вамі, які годна прагучаў бы і ў навагоднюю ноч з экранаў тэлевізараў:

*"Так, часы – вельмі цяжкія, складаныя часы. Не ў кожнага з нас ёсць мужнасць супрацьстаяць абставінам. У кожнай аўтарытарнай сістэме супрацьстаяць абставінам вельмі складана таму, што мы не разам, мы заўсёды падзелены. Але трэба не адчайвацца, а спакойна і годна рабіць сваю справу.*

*Калі зло нельга перамагчы, то трэба як мага меней у ім удзельнічаць. Гэта кожны з нас можа выбраць і рабіць. Растуць дзеці – значыць, трэба радавацца жыццю.*

*Моладзі абавязкова трэба атрымліваць добрую адукацыю. Быць на вуліцы і змагацца – гэта, канешне, добра, але я не хацела б, каб мне шылі сукенку або лячылі зубы рэвалюцыянеры, якія займаліся ўсё жыццё толькі бунтам. Я хацела б мець справу з добрай краўчыхай і добрым стаматолагам. Таму станавіцеся добрымі прафесіяналамі.*

*Ніводная аўтарытарная ідэя – не вечная. Дзе цяпер Сталін, Кадафі і дзясяткі іншых дыктатараў? Іх няма. А жыццё і мы, маленькія людзі, застаёмся"*.

Між тым цэлы шэраг вядомых і паспяховых беларусаў з розных галін дзейнасці звернуцца да нас з вамі ў ноч з 31 снежня на 1 студзеня ў навагоднім канцэрце, які падрыхтаваў тэлеканал "Белсат" (belsat.eu). Да сваіх зычанняў пісьменнікі Уладзімір Арлоў і Адам Глобус, бізнесовец Павел Берагові́ч, праваабаронца Алесь Бяляцкі, плыўчыха Аляксандра Герасіменя, сям'я маладых беларускіх палітыкаў Зміцер і Наста Дашкевічы з дачкой Марай, сцэнарыст Андрэй Курэйчык, каардынатаркі кампаніі "Будзьма беларусамі!" Алена Макоўская і Ніна Шыдлоўская далучаць адмысловыя сімвалічныя падарункі. Імпрэзу правядуць Валянцін Салаўёў, заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь, і Юлія Шаўчук, актрыса "Свабоднага тэатра".

Асноўную ж частку навагодняга шоу на "Белсаце" пад назвай "Новае пакаленне на Новы год" складуць калядна-навагоднія песні ад нечаканых пар музыкаў: "Vuraj" і "Cherryvata", Алесь Дзянісаў ("Dzieciuki") і "Палац", "Tonqixod" і Сяргей Пукст, Vinsent і "Šuma voices», "BosaeSonca" і Ганна Хітрык, "Re1ikt" і Павел Аракелян, дзіцячы дуэт "Вера і Патрыцыя" і мужчынскі хор "Унія", "Trubetskoy" і Аляксандр Памідораў, Зміцер Вайцюшкевіч і Pauline…

Пачатак навагодняга шоу ў эфіры тэлеканала "Белсат" і ў анлайн-трансляцыі на сайце belsat.eu – 31 снежня ў 23.15. Тыя, каму канцэрт прыйдзецца даспадобы і захочацца да яго вярнуцца або хто на Новы год апынецца без тэлевізара і інтэрнэту, змогуць паглядзець канцэрт таксама пазней – напрыклад, 7 студзеня на праваслаўнае Раство або 14 студзеня на Стары Новы год на сайце "Белсата". Або ў любы іншы дзень. Яшчэ на канале плануюць у першыя тыдні 2016 года выпусціць аўдыёдыск з запісам музычнай часткі навагодняга шоу.

**Андрэй ЦЯПЛОЎ.**

ВІНШУЕМ!

## Лепшыя!

Лёгкаатлетка Марына Арзамасава і веласіпедыст Васіль Кірыенка названы лепшымі спартсменамі Беларусі 2015 года.

Гэта стала вядома паводле вынікаў апытання каля 100 беларускіх журналістаў з розных выданняў.

Нагадаем, у адыходзячым годзе **Марына Арзамасава** на чэмпіянаце свету па лёгкай атлетыцы заваявала залаты медаль на дыстанцыі 800 метраў.

Сярод спартсменаў-мужчын перамог 34-гадовы велагоншчык **Васіль Кірыенка**, які ў гэтым годзе стаў першым на чэмпіянаце свету ў індывідуальнай гонцы, а таксама заваяваў золата першых Еўрапейскіх гульняў у Баку.

**Алесь СІВЫ.**

ПАДЗЕЯ ГОДА



**Нобелеўскую прэмію беларуская пісьменніца Святлана Алексіевіч атрымала з рук караля Швецыі Карла XVI Густава.**

ПАРАЎНАЕМ

## У ЗША літр 92-га бензіну каштуе 52 цэнты, у Беларусі – 60!

За апошні месяц пры рэкордным падзенні коштаў на сырую нафту аўтамабільнае паліва хоць і ненамнога, але патаннела амаль ва ўсіх еўрапейскіх краінах. Толькі не ў Беларусі.

У ЗША ўвогуле на мінулым тыдні ўпершыню з крызіснага 2009 года кошт бензіну АІ-92 стаў ніжэй за 2 долары за галон. У пераліку на еўрапейскія адзінкі вымярэння – гэта 52 цэнты за літр. Заўважым, гэта ў краіне, дзе мінімальны заробак у месяц складае прыблізна паўтары тысячы долараў. А ў Беларусі, дзе лістападаўская сярэдняя зарплата не дасягнула і 380 долараў, за літр АІ-92 аўтааматары вымушаны плаціць 60 цэнтаў.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

# Падзеі 2015 года


1 студзеня – уступіла ў дзеянне дамова аб стварэнні Еўразійскага эканамічнага саюза.



7 студзеня – тэракт у Парыжы. Трое невядомых тэрарыстаў адкрылі агонь у офісе сатырычнага часопіса "Шарль Эбдо". Загінулі 12 чалавек.


11–12 лютага – у Мінску адбылася сустрэча прэзідэнтаў і прадстаўнікоў МЗС Германіі, Расіі, Украіны і Францыі. Перамовы былі прысвечаны лёсу Данбаса.


27 лютага – у Маскве забіты апазіцыйны расійскі палітык Барыс Нямцоў.


20 сакавіка – затрыманы IT-бізнесмен Віктар Пракапеня.


22 сакавіка – біятланістка Дар'я Домрачава заваявала Вялікі хрустальны глобус.



2 красавіка – падпісаны так званы закон аб дармаедах.


6 красавіка – нашаму земляку, сусветна вядомаму навукоўцу Барысу Кіту споўнілася 105 гадоў.


14 красавіка – у выніку трагедыі ў Міжземным моры загінулі 400 мігрантаў, сярод іх шмат дзяцей.


25 красавіка – у Балтыморы (ЗША) пачаліся сутыкненні дэманстрантаў з паліцыяй, выкліканыя гібеллю афраамерыканца Фрэдзі Грэя.


2 мая – памерла легендарная балерына Мая Плісецкая.


4 мая – у Нью-Ёрку адбылася адна з грандыёзных падзей у свеце моды – традыцыйны Баль касцюма.



1 чэрвеня – прэмію Гедройца за кнігу «Час збіраць косці» атрымаў Віктар Казько.


У ноч з 13 на 14 чэрвеня ў Тбілісі адбылася вялікая паводка. У зону бедства трапіў і заапарк.


26 чэрвеня – беларусы Кірыл Чыкеюк і Арцём Ставенка са сваім брытанскім стартапам Kino-mo сталі пераможцамі прэстыжнага брытанскага конкурсу стартапаў Pitch to Rich 2015.


28 чэрвеня – фінансавы калапс у Грэцыі.


11 ліпеня – 20 гадоў "Народнай Волі".


12–15 жніўня – у кітайскім Цяньцзіне адбылася тэхнагенная катастрофа.


22 жніўня – грамадскасць Мінска сустрэла Міколу Статкевіча пасля вызвалення з турмы.


29 жніўня – беларуская спартсменка Марына Арзамасава прынесла Беларусі золата на чэмпіянаце свету па лёгкай атлетыцы ў Пекіне.



БЕЗ ГАЛЬШТУКА




## Хобі Скота Роланда

"Зямля пад белымі крыламі" – так называецца каляндар на 2016 год, выдадзены Пасольствам ЗША ў Беларусі. Ён праілюстраваны здымкамі амерыканскага дыпламата – Паверанага ў Справах ЗША ў Беларусі Скота Роланда.

– Я бываў у Мінску двойчы ў далёкіх 1980-х, але тады ў мяне не атрымалася выехаць за межы сталіцы. Вярнуўшыся сюды зноў праз шмат гадоў, я атрымліваю сапраўдную асалоду ад Беларусі, ад знаёмства з цікавымі людзьмі і прыгожымі краявідамі ў розных кутках краіны, – прызнаецца кіраўнік дыпламатычнай місіі Злучаных Штатаў. – Але з асаблівым задавальненнем я займаюся тут сваім любімым хобі – назіраннем за птушкамі.

Каляндар выдадзены на рускай і англійскай мовах. Ён сведчыць, што спадар Скот Роланд сапраўды палюбіў наш край.

США – РОССИЯ

## Как Путин сражается за новый миропорядок

Не успел конфликт на востоке Украины немного затихнуть, как Россия начала военную операцию в Сирии. В 2015 году Москва с новой силой заявила о возвращении на мировую арену. Возникли новые шансы, а вместе с ними – и риски.

Президент России нечасто хвалит США, но 17 декабря произошло именно это. Это может показаться странным, признал Владимир Путин, но российский план по Сирии «по ключевым аспектам» совпадает с американским. Москва поддержит новые инициативы Вашингтона по решению сирийского конфликта, сказал глава Кремля на пресс-конференции в Москве по итогам года.

## Керри на переговорах в Москве

Эти заявления прозвучали спустя два дня после визита в Москву госсекретаря США Джона Керри. Перед встречей с Путиным Керри демонстративно гулял по Арбату и покупал сувениры. Таких символических кадров не было уже несколько лет. «Новая газета» написала о возможном «прорыве» в российско-американских отношениях, особенно охладевших после аннексии Россией Крыма. Ключевой вопрос – смогут ли стороны договориться о судьбе президента Сирии Башара Асада, отставки которого требует Вашингтон? Москва противится этому и поддерживает сирийского лидера – в том числе и военной силой.

ЮБІЛЕЙ

# Светлая лучнасць родных душ

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.)

**Хведар НЮНЬКА,**

**старшыня Таварыства беларускай культуры Літвы (1989–2014), беларускі грамадска-культурны дзеяч, сябра Прэзідыума Рады БНР, сябра Рады "Бацькаўшчыны", дырэктар Культурнага цэнтра імя Якуба Коласа ў Вільні:**

– ЗБС "Бацькаўшчына" не мае такіх умоў і падтрымкі з боку ўлад, якую маюць беларусы ў Літве і іншых краінах Балтыі. Аднак і ў гэтых умовах кіраўніцтва "Бацькаўшчыны" выконвае вялікую і такую патрэбную працу па наладжванні кантактаў, выпуску і забяспечванні замежных беларусаў літаратурай і сувенірамі, а па магчымасці і дапамогай у вырашэнні арганізацыйных пытанняў, арганізацыі з'ездаў і канферэнцый беларусаў…

…На будучыню пажадаю кіраўніцтву і далей працаваць супраць русіфікацыі Беларусі і супраць асіміляцыі беларусаў за мяжою.


Юбілей Бураўкіна. Мінск. 2011г.


V з'езд «Бацькаўшчыны».

**Лідзія САВІК,**

**даследчыца літаратуры, адна з заснавальніц Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", сябра Рады:**

– Гэта была такая эйфарыя! Мы дзень і ноч працавалі. У замежжы беларусы памяталі Бацькаўшчыну, мову памяталі, выдавалі творы – гэта вельмі нас прываблівала. Божа, колькі людзей прыехала! Мы ездзілі іх сустракаць, а яны сыходзілі з самалётаў, падалі на калені… Тады ўздым быў, людзі загаварылі па-беларуску, столькі падзей было!

Пра з'езд быў вялікі розгалас, і не толькі ў Беларусі, бо сюды амаль з усяго свету людзі прыехалі. Дзякуючы нашым эмігрантам свет даведаўся, што ёсць такая краіна – Беларусь…

…Вельмі добра, што была створана такая арганізацыя, якая вельмі шмат зрабіла для беларускай справы, не дае згаснуць гэтай беларускай свечачцы, дагарэць да палічкі і знікнуць зусім… Канечне, на з'езды прыязджае ўжо не столькі людзей, як на першы – той быў самы значны, самы вялікі, падзея была: тады ж яшчэ і ўрад спрычыніўся, і газеты, і часопісы шмат пісалі. Але я лічу, што вельмі правільная пазіцыя была, калі мы стварылі гэтую арганізацыю, – захаваць беларушчыну, захаваць нашу нацыю, культуру, гісторыю. Я лічу, што Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" – вельмі вялікае дасягненне беларускай нацыянальнай ідэі. А што такое нацыянальная ідэя? Гэта патрыятызм, захаванне сваёй мовы, сваёй культуры, гісторыі. І дзякаваць Богу, што Бацькаўшчына ўсё-ткі існуе, нягледзячы на такія нялёгкія ў апошнія 20 гадоў умовы. Я лічу, што "Бацькаўшчына" – адна з самых уплывовых і значных нашых арганізацый па ажыццяўленні беларускай нацыянальнай ідэі.

**Барыс ПЯТРОВІЧ (Сачанка),**

**старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў, сябра Рады Згуртавання:**

– Прыемна ўсведамляць, што ля вытокаў Згуртавання стаялі і пісьменнікі, а менавіта такія слынныя асобы, як Васіль Быкаў, Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, Рыгор Барадулін.

**Пятрусь КАПЧЫК,**

**старшыня беларускай суполкі "Зорка Венера" з украінскага Ізяслава, сябра Рады Згуртавання:**

– Для ўмацавання нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў патрэбна нацыянальная беларуская дзяржава з адной дзяржаўнай мовай, усе іншыя патугі так і застануцца патугамі. Даваць парады ў мяне няма жадання, таму што гэта ўсё роўна не будзе выканана: я добра ведаю стан рэчаў у краіне з мовай, культурай, адукацыяй і сродкамі масавай інфармацыі... Маю душу грэе думка, што недзе ў Мінску на вуліцы Кузьмы Чорнага знаходзіцца «выспа беларускасці» ў амаль цалкам ужо зрусіфікаванай краіне, дзе я нарадзіўся і рос, – ЗБС «Бацькаўшчына» і Саюз беларускіх пісьменнікаў. І дзякуй Пану Богу, што вы ёсць у нас, беларусаў замежжа, вы – наша надзея і спадзеў, што хоць нас і небагата, але мы ёсць, і русіфікатарам трэба пра гэта памятаць!!!

**Іна СНАРСКАЯ,**

**беларуская паэтка, што жыве ва Украіне, старшыня Культурна-асветнага аб'яднання беларусаў Палтавы "Агніца", сябра Рады Згуртавання:**

– Найбольш яскравай падзеяй для мяне быў Першы з'езд беларусаў свету. Уся атмасфера таго з'езда была прасякнута адчуваннем сапраўднага свята, надзеяй на адраджэнне Беларусі. На вуліцах Мінска, у транспарце мы, удзельнікі з'езда, размаўлялі па-беларуску, нам прыязна ўсміхаліся людзі. Мы расказвалі, адкуль мы, з якіх краін прыехалі, жыхары Мінска распытвалі пра наш з'езд. Я добра памятаю выступленне Васіля Быкава. Адчуваючы веліч гэтага чалавека і пісьменніка, мне цяжка было стрымаць слёзы. Не магу не ўспомніць той момант, як на прыступках Опернага тэатра са свечкамі ў руках мы спявалі «Магутны Божа».

**Лёля МІХАЛЮК,**

**шмат гадоў кіравала Згуртаваннем беларусаў у Вялікабрытаніі і сёння з'яўляецца ганаровым старшынёй гэтай арганізацыі, сябра Рады "Бацькаўшчыны":**

– У цяперашніх варунках нельга вымагаць немагчымага. Найбольш важна, з улікам усіх цяжкасцяў сённяшняга дня, тое, што "Бацькаўшчына" яшчэ існуе. А яшчэ тая вялікая праца, якую "Бацькаўшчына" робіць дзеля прэзентацыі беларушчыны навонкі, – хочацца, каб і надалей так было. Надзвычай важна, што "Бацькаўшчына" стараецца захаваць беларускую мову, бо нацыя не можа існаваць без мовы.

**Алег РУДАКОЎ,**

**заснавальнік і шматгадовы кіраўнік Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага, актыўны сябра Маладзёжнага клуба "Крывічы", намеснік старшыні Федэральнай нацыянальнай культурнай аўтаноміі "Беларусы Расіі», сябра Рады "Бацькаўшчыны":**

– У век глабалізацыі нацыянальная ідэнтычнасць можа захавацца толькі пры адной умове: калі беларусы будуць адраджаць, захоўваць і развіваць сваю традыцыйную нацыянальную культуру. Гэта можна зрабіць толькі пры ўмове правядзення нацыянальных абрадавых святаў у выглядзе не дробнай тусоўкі, а агульнага масавага фэсту. Гэта мы робім у Іркуцку. Праз нацыянальныя святы, якія мы ладзім з інтэрактывам (песні, танцы, культ нацыянальных строяў, культ нацыянальных рамёстваў), усё гэта дае магчымасць зацікавіць моладзь, якой якраз у будучыні і трэба будзе працягваць працу па захаванні нацыянальнай адметнасці.


Радзім Гарэцкі і Хведар Нюнька падчас адкрыцця шыльды М.Гарэцкаму.

Акрамя з'езда "Бацькаўшчыне" трэба ўзяцца за правядзенне "Беларускага кірмашу" – няхай адзін раз на тры гады, але каб гэта быў не толькі фестываль беларускай песні, але і майстар-класы па рамёствах, майстар-класы па танцах, па інтэрактыўным вывучэнні беларускай мовы і іншае.

Лічу, што прыйшоў такі час, калі трэба вылучыць маладзёжнае крыло "Бацькаўшчыны". Дзеля гэтага правесці Першы беларускі ўсясветны маладзёжны з'езд, які зробіць аналіз пытання далучэння моладзі ў розных краінах і ў самой Беларусі да беларускага руху, а таксама распрацуе асноўныя кірункі дзейнасці дзеля дасягнення гэтай мэты.

**Валер ГЕРАСІМАЎ,**

**намеснік старшыні Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" і адзін з пачынальнікаў гэтай арганізацыі:**

– Гэта быў час, калі мы ўсе пайшлі ў палітыку, мы ўсе – навукоўцы, творчая інтэлігенцыя, простыя служачыя – аддаваліся гэтай справе шчыра і з грамадскай ініцыятывы пісалі пра мову, пра дзеячаў адраджэння, удзельнічалі ў першых вольных мітынгах па адзначэнні Дзядоў, супраць будаўніцтва лініі метро пад Верхнім горадам Мінска, зносу старажытных мінскіх будынкаў, спявалі разам народныя беларускія песні («спеўкі» былі так званыя). Памятаю, Зянон Пазьняк, з якім я тады пазнаёміўся, сказаў: "Бацькаўшчына" – арганізацыя, якая яднае беларусаў з усяго свету, усіх веравызнанняў, незалежна нават ад крыві: галоўнае – палітычнае грамадзянства і ўсведамленне сябе беларусам. Але ніколі "Бацькаўшчына" не ахвяравала прынцыпамі: нацыянальная культура, нацыянальная мова, нацыянальная сімволіка, бел-чырвона-белы сцяг і "Пагоня" – гэта тыя "слупы" нацыянальнай свядомасці, на якіх "Бацькаўшчына" трымалася заўсёды. Лічу, што і цяпер кіраўніцтва "Бацькаўшчыны" ідзе правільным шляхам".

…Я думаю, што развіццё беларускай нацыі, беларускага народа незваротнае, а неспрыяльныя дробязі на нашай дарозе адыдуць у былое. Я захоўваю гэты аптымізм, нейкую трываласць і веру дзякуючы "Бацькаўшчыне" і людзям, якія там працавалі і працуюць. Яны працуюць прафесійна, абганяючы ў імпэце дзяржаўныя структуры…

**P.S.** Цалкам допісы гэтых і іншых асоб можна прачытаць на сайце "Бацькаўшчыны" zbsb.org.



САНКЦИИ

## Кто попал в «черный список»

Министерство юстиции США опубликовало расширенный список российских компаний, в отношении которых вводятся санкции в связи с конфликтом на востоке Украины.

В санкционные списки попали, в частности, банк ВТБ24, дочерние структуры «Сбербанка» в Украине и в Швейцарии, девелоперская компания «Галс Девелопмент», а также платежная система «Яндекс.Деньги» (75% акций компании владеет «Сбербанк»). В «черных списках» оказались компании и банки, активно работающие в аннексированном Россией Крыму, а также связанные с действующими фигурантами списка.

Среди физических лиц, в отношении которых введены санкции, – представители самопровозглашенных республик на востоке Украины, а также ряд российских и украинских граждан, в числе которых работники российских компаний «Ижмаш», концерн «Калашников» и другие.

«Критически важно, чтобы Россия предпринимала необходимые шаги для выполнения своих обязательств в рамках Минских соглашений», – приводится в пресс-релизе Минюста заявление директора Управления контроля иностранных активов США (OFAC) Джона Смита.

ЛЁС ЧАЛАВЕКА



# НЯСКОРАНЫ МІХАІЛ МАРЫНІЧ

## ГІСТОРЫЯ Ў ФОТА

(Працяг. Пачатак у №№96–101.)

Сяргея Фокіна маўчанне гэтае моцна стаміла. У 2001 годзе ён пачаў працаваць у апальнай "Дзелавой ініцыятыве", а з Міхаілам Апанасавічам Марынічам сябраваў да апошніх дзён яго жыцця. І ні ад кога не хаваў гэтага сяброўства…

Як і Анатоль Іванавіч Ракіцкі.

Напэўна, ён ведаў Марыніча даўжэй за ўсіх астатніх, бо паходзіць з той самай вёскі Навасёлкі, куды некалі ў школу хадзіў Міхаіл Апанасавіч і дзе яны вучыліся ў розных класах.

Пазней абодва выправіліся "ў вялікі свет" і сустрэліся зноў толькі ў сярэдзіне 1990-х. Марыніч быў міністрам знешнеэканамічных сувязяў, а Ракіцкі кіраваў бранятанкавай службай Узброеных сіл Беларусі. Разам рабілі так, каб скарачэнне арміі (перш за ўсё матэрыяльнае) прыносіла беларускай дзяржаве плён.

На жаль, падобныя якасці аказаліся непатрэбнымі новай уладзе, таму з пачаткам новага тысячагоддзя яны зноў апынуліся разам. Абодва заўсёды імкнуліся быць чэснымі перад уласным сумленнем.

Трэцім сапраўдным сябрам Міхаіла Апанасавіча Марыніча без перабольшванняў можна назваць Уладзіміра Сяргеевіча Іскарцава. І не толькі таму, што той два гады быў яго памочнікам у Мінгарвыканкаме ў вельмі напружаныя часы будаўніцтва Мінскага метрапалітэна. Іскарцаў стаў хросным бацькам яго малодшага сына Міхаіла.

Вяртаючыся да асабістага жыцця Марыніча, я яшчэ раз хачу падкрэсліць, што не жадаю тут бачыць нейкіх "падзелаў". Усе ў роўнай ступені самыя блізкія герою гэтай кнігі людзі, з усімі ён быў шчаслівы.


З сынам Іграм.


З сынам Паўлам.


З сынам Міхаілам.


З жонкай Таццянай.

Таксама асобна хочацца сказаць і пра супрацоўнікаў бізнес-цэнтра "Імагуру", найперш пра Анастасію Хамянкову і Яўгена Пугача, якія асабіста дапамагалі аўтару. Шчыры ім дзякуй!

Удзячны таксама за дапамогу Паліне Лысюк і Васілю Вешнякову!

Тыя, хто працуе ў жанры нон-фікшан, ведаюць, што, калі кніга робіцца да нейкага юбілею, даволі часта абмяркоўваецца склад людзей, ад якіх хацеў бы бачыць віншаванні сам юбіляр. Падобнае зрабілі і мы з Міхаілам Апанасавічам.

На жаль, па зразумелай прычыне ад віншаванняў прыйшлося адмовіцца. Размешчаныя ніжэй успаміны былі запісаны ўжо пасля сыходу Марыніча з жыцця. А пачаць хочацца са слоў былога прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіла Чыгіра.

**Міхаіл Чыгір, былы кіраўнік беларускага ўрада (1994-1996):**

*"Я ведаў яго яшчэ з часоў работы ў Мінгарвыканкаме, але бліжэй пазнаёміўся ўжо тады, калі ён стаў міністрам знешнеэканамічных сувязяў.*

*Яго погляды на мадэрнізацыю знешнеэканамічнай дзейнасці, мякка кажучы, не супадалі з лукашэнкаўскімі, і ён гэтага абсалютна не хаваў. А калі яго прызначылі амбасадарам, усё стала яшчэ больш відавочна.*

*Аднойчы, падчас нашай тэлефоннай размовы (я ўжо быў у адстаўцы, а ён яшчэ дзеючым чыноўнікам), Марыніч пачаў надзвычай жорстка крытыкаваць існуючае становішча. Я здзівіўся, што ён робіць гэта па тэлефоне, і спытаў: "Не баішся?" Ён адказаў: "Колькі можна баяцца! Нешта трэба рабіць".*

*Міхаіл Марыніч быў выхаваны савецкай сістэмай, але вельмі хутка змяніў свае погляды. Для мяне было цалкам зразумела, што доўга ён там не пратрымаецца. Так і адбылося".*

Словы Міхаіла Мікалаевіча Чыгіра даволі красамоўна пацвярджае фота. Міхаіл Апанасавіч Марыніч быў адзіным (!!!) беларускім амбасадарам, у кабінеце якога не было партрэта дзеючага прэзідэнта…


Працоўны кабінет.

Як вядома, кабінет гэты ў свае часы быў у Рызе, і менавіта з Рыгі паходзіць жанчына, якая зрабіла для Міхаіла Марыніча больш за некаторых мужчын.

**Майра Мора, амбасадар, кіраўнік Прадстаўніцтва ЕС у Беларусі:**

*"У той час, калі Міхаіл Апанасавіч прадстаўляў інтарэсы Беларусі ў Латвіі, адносіны Беларусі з краінамі еўрапейскай супольнасці ўжо сур'ёзна ўскладніліся, але ён заўсёды карыстаўся бязмежнай павагай і даверам сваіх калег па дыпламатычным корпусе. Пазнаёміліся мы з Міхаілам Апанасавічам у красавіку 2005 года пры абставінах, якія зусім не спрыялі нязмушанай гутарцы: разам з літоўскім калегам атрымалі дазвол наведаць яго ў зняволенні, і тады я ўбачыла, што да яго ставіліся з пашанай і тыя, хто мусіў паводле сваіх службовых абавязкаў яго ахоўваць.*

*Падчас той нашай першай размовы з Марынічам у мяне склалася ўражанне, што маштаб асобы гэтага чалавека большы за любую пасаду, якую ён займаў ці мог бы займаць, а яго характар мацнейшы за любыя абставіны".*

А вось што напісаў другі адметны для беларускай гісторыі чужаземец.

**Ханс-Георг Він, пасол, кіраўнік Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЕ ў Беларусі (1997–2001):**

*"На прафесійную біяграфію Міхаіла Марыніча аказалі ўплыў вялікія паваротныя падзеі ў Еўропе, што ў апошнія дзесяцігоддзі мінулага стагоддзя прывялі да краху камуністычных мадэляў грамадства і дзяржавы. Яны паклалі пачатак цяжкім пераходным працэсам, стварылі новыя рамачныя ўмовы для народаў, дзяржаў і грамадзян.*

*Міхаіл Марыніч браў актыўны ўдзел у працэсах гэтай трансфармацыі. Напрыклад, у падрыхтоўцы Пагаднення аб партнёрстве і супрацоўніцтве паміж Еўрапейскім Саюзам і Беларуссю, якое было падпісана 6 сакавіка 1995 года ў Брусэлі. Яно павінна было садзейнічаць руху яго краіны да сацыяльнай рынкавай эканомікі і плюралістычнага дэмакратычнага грамадскага ладу.*

*Шкада, але нічога падобнага не ажыццявілася…*

*Вылучыўшы сваю кандыдатуру на пасаду прэзідэнта падчас выбараў 2001 года, Міхаіл Марыніч кінуў выклік Аляксандру Лукашэнку, чый палітычны гнеў выліўся ў пераслед, горкія гады турэмнага зняволення.*

*На жаль, у апошнія гады я не змог прыняць удзел у жыцці пана Марыніча і яго сям'і.*

*Фізічна ён пакінуў нас назаўжды, але заўсёды будзе жыць у памяці. Памяці яго блізкіх, сваякоў і сяброў. Да іх маю гонар аднесці і сябе".*

Думаю, лагічным працягам гэтых слоў будзе тое, што знакаміты беларускі паэт і палітык Уладзімір Някляеў з нагоды смерці Міхаіла Апанасавіча Марыніча напісаў у сваім "Фэйсбуку" і ветліва дазволіў выкарыстаць для гэтай кнігі.

(Заканчэнне на 6-й стар.)

